Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана 15 гр.

# НАША ВОЛЯ

БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ДВУТЫДНЁВЫ ЧАСАПІС

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вільня, Дамініканская 17-12

Рэдакцыя прыймае: ад гадзіны 12 — 16
Рэдактар: ад 14—16

Падпісная плата: у год 3 зл. за паў году 1,50 злот. квартальна 1 зл.

№ 7 (8) Вільня, 2 траўня 1936 г. Год I

## Першы Май

... Не, не зрабіць з байца пакорнага раба!
Трымай бадзёра шаг пад бурны гымн свабодны.
За намі — цемры ноч, прад намі — барацьба!...

М. ВАСІЛЁК.

На рубяжы двух гістарычных эпох — найбуйнейшага разьвіцьця капіталізму і пачатку яго загніваньня — 1-шы Май быў абвешчаны днём міжнароднай рабочай салідарнасьці і барацьбы з капіталам за вялікія ідэалы вызваленьня працоўнае людзкасьці. З таго часу кажды год у дзень 1-га Мая сьвядомыя людзі працы розных нацыяў спыняюць работу, каб дамагацца сваіх правоў на вольнае і шчасьлівае жыцьцё.

Шмат ахвяр прынесена, шмат крыві пралілося дзеля гэтага пралетарскага сьвята. Пад ударамі жандармскіх шабляў, пад кулямі рэакцыі пранесьлі першамайскія штандары работнікі бышае царскае Расеі. Пад такім жа прыгнётам рэакцыі нясуць першамайскія штандары працоўныя шмат якіх дзяржаваў капіталістычнага сьвету.

Кожны год 1-га Мая ўзрастаюць дэманструючыя калёны і ўзмацняецца салідарнасьць пралетарскіх радоў. Грымяць песьні барацьбы і волі, больш прызыўна разьвяваюцца першамайскія штандары, паказваючы шляхі перамогі.

Першы Май — сонца вясны, якое растапіла ледзяныя кайданы ў прыродзе, зьяўляецца сымбалям вясны працоўнага народу, той вясны, што родзіцца ў бязупыннай барацьбе за лепшае новае, вольнае жыцьцё. У гэтай барацьбе кожны год завастрае супярэчнасьці і выказвае ўпадак старога сьвету. Як доказ гэтага, сьвет пабачыў не адно, бязмерна вялікае і нябывалае ў гісторыі, зьявішча: вялікі тэхнічны поступ — і нячуваны ў гісторыі капіталізму крызыс; вялікая імпэрыялістычная вайна — і нябывала вялікая ў гісторыі людзкасьці соцыяльная рэвалюцыя; вялікі безпаваротны ўпадак капіталізму — і нябывала вялікія трыумфы соцыялізму.

На ўсіх этапах барацьбы гэтага пэрыяду першамайскія дэманстрацыі адыгралі выняткова важную ролю ў мабілізацыі салідарнай барацьбы ўсіх працоўных. Яшчэ большае значэньне мае Першамайскае Сьвята ў гэтым годзе.

Народы сьвету апынуліся перад страшнай небяспекай новай сусьветнай вайны. Справа міру спачывае на дымячым вулькане, вось-вось гатовым выбухнуць крывавым пажарам. У Афрыцы ўжо 7 месяцаў італьянскі фашызм бязкарна топіць у крыві і душыць газамі безбаронны Абісынскі народ. У Азіі японскія імпэрыялісты прабуюць ваяваць з Манголіяй. Яўныя і тайныя ваенныя саюзы, падрыхтоўка крыжовага паходу гітлероўскай Нямеччыны на землі Украіны і Беларусі, а Японіі — на землі Далёкага Усходу, кожны дзень могуць прынясьці вайну,

Супроць вайны і фашызму — за мір і волю, супроць наёмнага нявольніцтва і нэндзы — за вольнае людзкае жыцьцё, — вось з чым Працоўны Народ спаткае сваё Сьвята.

**Салідарная еднасьць усіх прыгнечаных і эксплаатаваных супроць вайны і фашызму выявіцца ў радох першамайскіх калён гэтага году, як ніколі дагэтуль.**

Гэта будзе сапраўдная ластаўка Сьвята Вясны.

—:—

## ВЯНОК.

Зара ўжо затлела, а трэба ісьці
і сыпаць на труны пясок...
Так цяжка ў далонях мазольных нясьці
штандары, схіліўшы над вамі, байцы,
і класьці апошні вянок...

І песьні змаганьня, і сны змагароў,
расьцьвіўшыя раньняй вясною ў зару —
з над Нарачы, Нёмну, з Вяльлі берагоў,
ўсе лепшыя краскі з батрацкіх шнуроў
сабрала ў вянок Беларусь...

І ўстануць другія бунтарныя дні, —
Яшчэ мы на Вашы магілы прыйдзём
і, разам з парывамі новай вясны,
акрытыя славай штандары ў агні,
клянёмся—мы Вам прынясём.

А сяньня—бывайце! Ўжо трэба ісьці.
Прыміце апошні вянок...
Ды сьпіце спакойна ў магілах, байцы,—
нам час ўжо сьцягі баявыя нясьці:
Вы чуеце кадраў штурмуючых крок!

МАКСІМ ТАНК.

Вільня, Красавік 1936 году.

* * *

Яшчэ веру — ты вёска ўстанеш,
Яшчэ веру — прачнешся ад сну,
На сьвет праўды вачыма заглянеш
І спаткаць яшчэ выйдзеш вясну.

У палёх захвалююцца нівы,
Сонца косы скупае ў іх,
І пакоцяцца ў даль пералівы
Ціхазвонных лугоў веснавых.

А па чорнага неба разорах,
У туманнай начной цемнаце,
Узыйдзе раньні палаючы золак
І крывавым агнём зацьвіце.

На ўсходзе зазьяе зарніца,
Залье блескам нядолі сьляды, —
І свабодай мы будзем гардзіцца,
На ўвесь сьвет гукнём гымн малады.

Разбрылянцяца росы вясёлкай,
Як пачне першы май расьцьвітаць,
Яшчэ веру — паўстанеш ты вёска,
Яшчэ выйдзеш вясну спатыкаць.

16.IV.36. *Н. Т.*

## РОМЭН РОЛЛЯНД — ПАЛЯКОМ-ПРЫЯЦЕЛЯМ.

(З „Oblicze Dnia“ — перадрук).

Дарагія прыяцелі!

З радасьцю і бяз засьцярог даю маё прозьвішча і маральнае падтрыманьне людзём сэрца, што змагаюцца ў абароне уцісканых і пакрыўджаных, — адважным людзём, што дамагаюцца выступіць супроць агіднага антысэмітызму у Польшчы, які амаль прымушае мяне шкадаваць, што я не жыд, бо мушу стыдацца за маіх хрысьціянскіх братоў.

Гэта маральная зараза Эўропы, якую лічылі зьнішчанай ад часоў сярэднявечча, ізноў угрызаецца ў жыцьцё, дзякуючы цынічным высілкам рэакцыі, дзякуючы тым, што жывуць з уціску і эксплёатацыі мас і сіляцца скіраваць ашалелую хвалю ўсяго няшчасьця і нядолі супроць нэндзароў іншае расы або рэлігіі.

Але мы здолеем сарваць з іх маску. Пакажам няшчысным і уцісканым усіх рас і нацыяў, што яны зьяўляюцца толькі аднэй расай і аднэй нацыяй, якая павінна аб'яднацца супроць злыдняў крыўды і цемры, калі сяньняшнія эксплёататары твораць сабе з іх срэдства, каб на масы узлажыць новае ярмо. Нашае імкненьне — гэта брацкі саюз душ з вялікімі, добрымі, скромнымі і шляхотнымі з жыдоўскага народу, як і з кожнага іншага,

О, ты, Польшча Міцкевіча, якая так шмат цярцела! Ты ня маеш права задаваць боль! Твая найвышэйшая місыя—зразумець тых, што цярпяць, і нясьці палёгку тым, хто як ты быў паніжаны і ўцісканы. Памажы нам адвярнуць крыўды прошласьці! Аб'яднаемся і рука ў руку будзем змагацца аб здзейсьненьне лепшай людзкай грамадзкасьці, аснованай на справядлівасьці і братэрстве.

Цісну руку Андрэя Струга і ўсіх Вашых прыяцеляў.

## „MŁODY LAS“.

Ёсьць такі польскі фільм.

Гімназіяльная моладзь за часоў царскае няволі вядзе змаганьне за сваю родную польскую мову. На экране праходзяць тыпы пэдагогаў царскае школы. Усякімі спосабамі спакушае дырэктар вучняў, каб адмовілісь ад сваіх нацыянальных ідэалаў: цаною здрады, ў адносінах да свайго народу, прапануе ён маладым юнакам дабрабыт і пасады чыноўнікаў. Ёсьць там і пэдагогі ідэйныя, якія паўнасьцю па старане юных змагароў. Калі аднаму з такіх дырэктар запрапанаваў пайсьці угаварваці вучняў, — бо кажа дырэктар—вас паслухаюць,—той адмовіўся, кажучы: — Вось таму і не пайду, што мяне паслухаюць.

Галоўная дзеючая асоба гэтага фільма—моладзь усіх клясаў сярэдняе школы, — той „Młody las“, каторы зялёным шумам прарочыў буру, якая з навальніцамі і громам прынясла незалежнасьць польскаму народу.

Доўга гэты фільм аглядала моладзь нашае Вільні, у тым ліку і беларуская, сымпатызуючы юным змагаром за народную ідэю.

Калі чытаеш „Родны Край“ мімаволі ўспамінаецца „Młody las“, але як не на карысьць выпадае параўнаньне для „кіраўнікоў“ Беларускай Філіі! „Родны Край“ і ТБА, абвесьціўшы сябе кіраўнікамі і апякунамі апошняй Філіі, далі волю свайму „патрыятычнаму“ абурэньню з тае прычыны, што рэвізія ў вучняў выкрыла друкі патрэбныя для арганізацыі беларускай урадавай школы. Мы ня ведаем, якімі шляхамі папалі гэтыя друкі да вучняў перад роспускам на канікулы. Аб гэтым магчыма скажуць культурныя арганізацыі, якія распачалі справу складаньня дэклярацый. Нас цікавіць тут выключна бок грамадзкай этыкі ў гэтай справе.

Ці-ж узапраўды ўсё беларускае грамадзянства толькі і мае ўплываў на беларускія масы, што праз моладзь філіі? Ці-ж ўзапраўды астроўшчыне так ужо залежыць на будучыні нашае моладзі? Няўжо-ж такі ўсё беларускае грамадзянства толькі і жыруе на дзіцячых душах?

Усе гэтыя пытаньні выклікаюць сумныя думкі аб тых падзеях з жыцьця нашае моладзі, якія глыбокім шрамам урэзаліся ў душу Беларускага Народу.

„Родны Край“ пяе гымны дыр. Астроўскаму і шкадуе толькі, што няма такіх дырэктароў у іншых культурных народаў, каторыя маглі-б „гардзіцца ім“.

Спрачацца ня будзем. Толькі перагістаем назад якую адну старонку з гісторыі нашага народу, і перад намі пачынаецца натуральны жывы фільм. Якраз аб тым, як праводзіў „пацыфікацыю“ гімназіі дыр. Астроўскі, пісала прэса іншых культурных народаў і ў Чэхаславаччыне і Югаславіі, толькі погляды ў гэтай прэсе на дыр. Астроўскага праводзіліся зусім працілежныя тым вывадам, якія робіць „Родны Край“. Нават эндэцкі „Дз. Віленьскі“ у сваім часе адазваўся характэрнаю фразаю: — польскае

(Гл. на адвароце).

# „MŁODY LAS“.

(Пачатак гл. на ст. 1).

грамадзянства перад вайною, калі-б мела, то „закаменавала-б такога дырэктара“. А ўжо-ж на што эндэцыя ня любіць беларусаў і то знайшлося чалавечнасьці асудзіць ягоныя паступкі. Апрача таго ў расейскай газэце „Наше Время“ у пісьме да рэдакцыі выразна была пастаўлена абвінавачаньне Астроўскаму, што ён праводзіў „пацыфікацыю“ гімназіі пры помачы паліцыі за тое, чаму сам раней навучаў. У такіх выпадках людзі з нармальна разьвітым і здаровым пачуцьцем маральнай адказнасьці так ці інакш рэагуюць на такія цяжкія закіды. Але для Астроўскага, як і для яго ТБА, паняцьце маральнай адказнасьці ня існуе. Досыць толькі прыпамятаваць, як яны касавалі пастановы суда чэсьці, які ў складзе выдатных віленскіх адвакатаў і грамадзкіх дзеячоў асудзіў Астроўскага за дэмаралізацыю моладзі карпарацыі „Скарынія“, якую, да слова будзе сказаць, Сэнат Віленскага Унівэрсытэту палічыў патрэбным зачыніць за неадпаведнае захаваньне. Вельмі характэрным зьяўляецца і той факт, што ў абароне асобы Астроўскага так заўзята выступаюць тыя самыя „скарынчыкі“, на якіх ён меў, паводле пастановы суда, дэмаралізуючы ўплыў. Але што ім пастановы суда чэсьці, калі яны сьвядома касуюць ужо пастановы польскага Дзяржаўнага Суда і аб'вяшчаюць „Нашу Волю“ (№ 1 (2)—20.I.1936 г.) канфіскаванай пад той час, калі з нас гэтая канфіската была зьнята Судом яшчэ 18 лютага. Буйная фантазія „Р. Кр.“ напісала вучням аж тысячу экзэмпляраў газэты.

Гэта ўжо проста данос на сваіхжа гадунцоў, гэта ратаваньне коштам дзяцей сваёй эдэквалiфікаванай апініі, гэта ўжо спроба „пацыфікацыі“ сялянскіх хат, за дамаганьне ўрадавай беларускай школы, **касаваньне языковых уставаў**, якія пакуль што яшчэ абавязваючай сілы ня ўтрацілі. Відаць ня маюць гэтыя кіраўнікі ніякага глыбейшага зьместу за душой, калі моладзь змушана шукаць беларускае слова па-за сваей школай.

А вось яшчэ характэрнае зьявішча. Усё грамадзянства з вялікім зьдзіўленьнем і радасьцяй глядзіць, як мацнее і расьце увачавідку буйны талент Максіма Танка, якога студэнцкая моладзь на руках насіла, на „Вечары поэзіі“,—і толькі адна астроўшчына ды ТБА займаюць да хваравлівасьці варожае становішча ў адносінах да пачынаючага поэта.

Сьмяецца „Родны Край“ з Танка, што яго маладое жыцьце пачалося з вастрогу. Пайсьці на Гольгофу за ідэю і пасідзець у вастрозе, ну, для прыкладу, за растрату грамадзкіх грошаў у якойсь Касе Хворых — для „Роднага Краю“ няма розьніцы ніякай.

Прызнаёмся мы раней зусім сьвядома не закраналі астроўшчыны, уважаючы, што гэты струп сам сабой асунецца з беларускага цела, аднак ён зноў пачынае гніць і псаваць паветра сваім мертвячым дыханьнем.

Толькі з пагляду на важнасьць справы для Беларускага Народу і моладзі, якая хоча вучыцца ў беларускай мове, мы змушаны былі забраць голас.

Фільм нашае сапраўднасьці куды цяжэйшы і страшнейшы, чым польскі „Młody las“.

*В. С-і.*

# На ўсенародны суд.

Акінчыц-Казлоўшчык у сваім „Новым Шляху“ (хоць ў запраўднасьці гэта стары і даўно выпрабаваны шлях царскай ахранкі) робяць данос на „Нашу Волю“, закідаючы ёй камунізм. Падаючы аб гэтым да ведама усіх Беларускіх арганізацыяў, Беларускага грамадзянства і Народу, рэдакцыя заяўляе, што перад абліччам такіх даносаў „Наша Воля“ ў поўным парадку. Дабравольцы з ахранкі стараюцца болей за ўладу, якая і сама даўно зарэагавала-б і бяз іх, калі-б для гэтага былі якія колечы падставы. Таму палемізаваць з Нац-фашыстамі не зьбіраемся, а свае заувагі скіроўваем да Беларускага Нацыянальнага Камітэту, у склад якога уваходзяць і Акінчыцы.

Гэтае выступленьне сіямскіх блізьнюкоў, Акінчыца-Казлоўшчыка, якія складаюць партыю Нацсацыялістаў, аканчальна пераконывае нас у тым, што яны ператвараюць Беларускі Нацыянальны Камітэт у складачнае месца для даношчыкаў і арганізатараў жыдоўскіх пагромаў. У кожнай арганізацыі ёсьць мінімум вымаганьняў да сваіх сябраў. Гэты мінімум грамадзкай этыкі абавязвае Беларускі Нацыьнальны Камітэт рубам паставіць пытаньне аб далейшым уваходзе Акінчыцаў у склад гэтай арганізацыі. Камітэт мае рабіць сход 10 траўня, на які заклікае арганізацыі, не ўваходзячыя ў Нацыянальны Камітэт. Але ці варта прыналічнасьці некаторых „юрыдычных“ сяброў Камітэту ісьці туды новым арганізацям? Ці не лепей узалежніць свой уваход ад пазыцыі, якую займе Нацыянальны Камітэт ў справе грамадзкай „этыкі“ Акінчыца-Казлоўшчыка, як сябраў гэтага К-ту? Наша рэдакцыя ня мае ў сваім складзе ніякіх жыдоў і ніякіх зносінаў з жыдоўскім грамадзянствам наогул, але гэта нас яшчэ болей абавязвае выступаць проці маральнай падрыхтоўкі да жыдоўскіх пагромаў з боку беларускіх арганізацыяў і дамагацца, каб у гэтак важных пытаньнях, як публічныя даносы і пагромныя агітацыя выказаў свой голас Нацыянальны Камімэт, **дэмакратычным** аўтарытэтам ягога прыкрываюцца беларускія зусім **недэмакратычныя** элемэнты у Прэзыдыюме самага камітэту.

Апрача таго мы ставім пытаньне гр Пазьняку, Старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту і рэдактару „Беларускай Крыніцы“, (якая да пэўнай меры зьяўляецца органам Нацкома), калі і дзе мы выступалі проці беларускіх арганізацыяў, як аб гэтым пішаце Вы у „Беларускай Крыніцы“ № 18? У Вільні ёсць: Беларускі Нацком, Навуковае Т-ва, ТБШ, БІГіК, Студэнцкі Саюз, Банк, Музэй, Коопэратыў „Пчала“ і многа часапісаў. Якую з гэтых беларускіх арганізацыяў мы імкнуліся разьбіваць? Нават газэта наша не зачэпала ТБА, пакуль яно не сасьлізнула на шлях палітычнай „працы“ ў гатунку а la Акінчыц-Казлоўшчык. Што-ж датычыць крытыкі Вашай праграмы БНА, то нам здаецца, што ў выніку яе Вашыя сябры выступілі з дамаганьнем зьмены некаторых пунктаў праграмы. Магчыма ў гэтым ёсьць наша віна ці заслуга. Няведаем. З рэштаю Вы самі прасілі грамадзянства зьвярнуць увагу на Вашы недахопы. Але крытыкуючы другіх — гэта абавязак усякай прэсы—мы не дапускалі выразаў грубых і абразьлівых, як гэта робіце нават Вы, Старшыня Нацыянальнага Камітэту, ў адносінах да нас. Пэўнае становішча абавязвае. Крытыка праграмы, або ідэолёгічная спрэчка, па нашаму, ня есьць разьбіваньне, а узмацненьне арганізацыйнага жыцьця. Толькі фікцыі і нічога нявартыя арганізацыі баяцца крытыкі.

Паглыбленьне народнай сьведамасьці, дамаганьне ўрадавай беларускай школы, змаганьне за інтарэсы селяніна і работніка, барацьба са зьвярыным нацыяналізмам, — яшчэ не азначае залежнасьці ад камунізму. Пад гэтым падпісваецца не адна рэдакцыя „Нашай Волі“, а кожны сьведамы беларус, апрача. . . лічаных адзінак з плеяды Акінчыц - Казлоўшчык.

*Вінцэсь Склубоўскі.*

# Міжнародны агляд.

Разьвіцьцё падзеяў на абісынскім тэатры вайны — хуткае пасоўваньне італьянскай арміі на Аддіс - Абэбу і зьнішчэньне абісынскае арміі, — усё гэта адбілася і на напрамку палітыкі ў Эўропе. Афрыканскі канфлікт ізноў стаўся справаю першараднага значэньня і засланіў сабою нават такія справы, як мілітарызацыя прырэйнскай вобласьці, увядзеньне вайсковай службы ў Аўстрыі і іншыя.

**АНГЛІЯ — ІТАЛІЯ.** Пасьпехі італьянцаў у Афыцы занепакоілі Англію бо зьяўляюцца пагрозаю англійскім інтарэсам. Англія хацела-б затрымаць наступленьне італьянцаў і не дапусьціць да заняцьця Аддіс-Абэбы. Аднак трэба прызнаць, што дабіцца гэтага зараз вельмі цяжка. Момант, калі можна было прымусіць італьянцаў спыніць вайну ўпушчаны. Калі на пачатку спыніць вайну можна было распараджэньнем аб зачыненьні Суэцкага каналу, або забаронаю прадажы Італіі нафты і яе прадуктаў, дык гэтыя мерапрыемствы зараз пажаданых вынікаў ужо не дадуць. Апьянёны пасьпехамі Муссоліні на ўступкі ня пойдзе. Застаюцца санкцыі вайсковага характару, але гэта азначала-бы вайну з Італіяй, а ніводная дзяржава на гэта не адважыцца.

**ПАЗЫЦЫЯ ФРАНЦЫІ.** Францыя, ад пазыцыі каторай залежыць шмат, ня можа пачаць актыўную палітыку, з прычыны новых выбароў у парлямант. Францускі ўрад прызнае патрэбным захаваць добрыя адносіны, як з Англіяй, так і з Італіяй і дзеля гэтага шукае кампраміснага выхаду, каб толькі ня страціць сымпатыяў абедзьвіх гэтых дзяржаваў, што патрэбна Францыі на выпадак канфлікту з Нямеччынай. Гэта змушае Францыю не адмаўляцца ад істнуючых карных санкцыяў супроць Італіі і пазаставацца вернаю Лізе Народаў. Але затое вымагаецца ад Англіі, каб сучасныя санкцыі ня былі ўзмацаваныя. Англія і Францыя робяць усе стараньні, каб лёкалізаваць афрыканскі канфлікт, зводзячы яго да каляніяльнага канфлікту, каб толькі не стварыць новае небясьпекі для гонару Лігі Народаў.

**ЛІГА НАРОДАЎ,** якая ўвесь час ня магла асьмеліцца на рашучую палітыку ў італьянска-абісынскім канфлікце, нават у абліччы абісынскае трагэдыі, ня можа ніяк адважыцца на мерапрыемства, якія маглі-бы прычыніцца да ліквідацыі бойні. Надзвычайная сэсія Рады Лігі, якая адчынілася ў Жэневе 20 красавіка, была дужа багатая ў прыгожыя гучныя прамовы, але нічога канкрэтнага, што магло-бы прысьпешыць мір, ніхто не сказаў. У выніку прынята рэзалюцыя, у якой высказаны жаль, што ня ўдалося дайсьці да спыненьня ваенных дзеяньняў, і вайна прадаўжаецца, як даўней, у варунках, якія былі прызнаны праціўнымі пакту Лігі Народаў. Далей у рэзалюцыі ўспамінаецца, што згодна з пратаколам ад 1925 году не належыць ужываць атрутных газаў. На больш рашучае асуджаньне ў гэтай справе Рада не знайшлася. Прыняўшы аднагалосна гэтую рэзалюцыю, Рада Лігі Народаў прызнала сваю работу скончанаю і зачынілася, даўшы яшчэ адзін клясычны прыклад свайго банкроцтва.

**НА ДАЛЁКІМ УСХОДЗЕ.** Адносіны паміж Японіяй і СССР у апошнія часы не выяўляюць тэндэнцыяў да палепшаньня. Наадварот становяцца яны яшчэ больш напружанымі. Японія бліжэйшай сваёй задачай ставіць падпарадкаваньне сабе Манголіі. Саветы з прычын стратэгічных ня могуць згадзіцца на заваяваньне Манголіі Японіяй і робяць усё, каб забясьпечыць свае інтарэсы на Далёкім Усходзе, вынікам чаго зьявіўся ваенны саюз СССР з Манголіяй Саюз гэты Японія лічыць вялікай падзеяй, якая мае „гістарычнае значэньне“ для лёсаў Азіі. Другім фактам, які мае ўплыў на савецка-японскія адносіны, зьяўляецца раскрыцьцё ў Манджу-Го вялікай проціяпонскай арганізацыі. У арганізацыю ўваходзілі прадстаўнікі манджурскае ўлады, вайсковыя, а нават і начальнік паліцыі прыгранічнай правінцыі. Загаворшчыкаў японская ўлада абвінавачвае ў імкненьні адарваць ад Манджу-Го правінцыі засялёныя манголамі, каб далучыць іх да Мангольскай Народнай Рэспублікі. Загаворшчыкі расстрэляны.

## У Гішпаніі

У праграмовай прамове ў Картэзах прам'ер Азана заявіў, што ўрад будзе праводзіць у прысьпешаным парадку рэформы, якіх дамагаецца „Народны Фронт“, а перадусім зложыць праект выбарнай рэформы і зьверне асаблівую ўвагу на справы гаспадарчыя. У справе загранічнай палітыкі прам'ер Азана сказаў, што Эўропа перажывае цяжкі крызыс. Гішпанія імкнецца служыць справе міру ў рамах Лігі Народаў, але ня возьме на сябе ніякіх забавязаньняў апрача тых, якія будуць абавязываць і іншых сяброў Лігі. У справе апошніх разрухаў у Гішпаніі прам'ер заявіў, што ўрад будзе востра выступаць супроць кожнага гвалту не залежна ад таго, з якога лягеру ён выходзіў.

---

У Картэзах адбыліся дэбаты ў справе разьвязаньня прэзыдэнтам Замораю папярэдніх Картэзаў. Большасьцяй 238 галасоў супроць 5 (правіца ўстрымалася) Картэзы прызналі, што прэзыдэнт распусьціў папярэднія Картэзы бяз ніякай патрэбы, чым зламаў канстытуцыю У выніку гэтае пастановы прэзыдэнт Замора змушаны быў выйсьці ў адстаўку. Да выбараў новага прэзыдэнта, які адбудуцца 10 траўня, абавязкі прэзыдэнта выконвае старшыня Картэзаў Марцінэс Барріоз. Кандыдатам у прэзыдэнты зьяўляецца прам'ер Азана, выбар якога забясьпечаны.

---

У сувязі з разрухамі, якія здарыліся ў Гішпаніі, урад распачаў ліквідацыю фашызму. З Мадрыду даносяць аб масавых арыштах сярод сяброў правых арганізацыяў. У Мадрыдзе арыштавана больш 500 асобаў. На правінцыі лік арыштаваных дасягае некалькі тысячаў. Вайсковыя, западозраныя ў процірэспубліканскіх настроях і ў належнасьці да фашыстоўскіх арганізацыяў, масова выдаляюцца з арміі і лётніцтва.

## Выбары ўва Францыі.

26 красавіка ўва ўсей Францыі адбыліся першыя выбары ў парлямант. Прабег выбараў быў спакойны. Лік галасаваўшых быў вялікі. Паводле афіцыяльнага камунікату з 618 вокругаў выбары адбыліся пакуль у 183 вокругах, у пазасталых—адбудзецца паўторнае галасаваньне 3 траўня. Здабытыя мандаты дзеляцца гэтак: сацыялісты—21, камуністы—6, сацыялісты-рэспубліканцы—4, незалежныя сацыялісты — 1, радыкалы-сац. -23, незалежныя радыкалы—11, левыя рэспубліканцы—33, народ. дэмакраты—12, унія рэспубл.-дэмокр.—40, консэрватары—4. Партыйная прыналежнасьць 18 мандатаў ня высьветлена.

Француская прэса лічыць, што ў новым парляманце павялічыцца лік дэпутатаў і соцыялістаў. У разе перамогі ў паўторным галасаваньні соцыялістаў, могуць стацца яны найвялікшай групай у новым парляманце.

## Дарданэлы.

Турэцкі урад зьвярнўуся да дзяржаваў, падпісаўшых Лазанскі, трактат з нотаю, у якой дамагаецца рэвізіі гэтага трактату.

Паводле Лазанскага трактаку пратока Дарданэлі, якая зьяўляецца ключом да Чорнага мора, была разброена. Прымаючы пад увагу няпэўнае палажэньне ў Эўропе, Турцыя, у інтарэсах абароны, дабіваецца права ўзбраеньня Дарданэляў. Эўрапэйскія дзяржавы, якія падпісалі Лазанскі трактат, а таксама і СССР, які зьяўляецца найбольш зацікаўленым у справе, не пярэчуць Турцыі, і, як трэба спадзявацца, справа рэвізіі дарданэльскага статуту будзе вырашана памысна для Турцыі.

## Разрухі ў Палестыне.

Апошнія дні Палестына зноў сталася арэнай разрухаў, ў сувязі з нясьціхаючай барацьбой арабаў з жыдамі. Перасяленьне жыдоў у Палестыну трывожыць арабскае яе насельніцтва, дзеля чаго арабы дамагаюцца забароны жыдам набываць зямлю і спыніць перасяленьне.

Разрухі распачаліся амаль не адначасна у Яффе, Тэль-Авіве, а нават і ў Ерусаліме. Найвялікшых разьмераў разрухі асягнулі ў Яффе, дзе перайшлі ў звычайны пагром. Лік забітых яшчэ ня ведамы, але лічыцца дзясяткамі. Больш 100 жыдоў ранена. Ёсьць забітыя і раненыя і сярод арабаў. У Яффе і Тэль-Авіве пачаліся пажары. Згарэла там больш чым 1000 дамоў. Арабы абвесьцілі агульную забастоўку. Высокі Камісар Палестыны сьцягівае войска каб спыніць пагромы.

# Падзеі ўва Львове.

Падаём справаздачу аб падзеях, адбыўшыхся ў Львове паводле польскае прэсы.

Урадавы камунікат аб Львоўскіх падзеях 14-га красавіка гавора:

„Перад палудням сабралася каля Бюро Пасярэдніцтва Працы вялікая група безработных, просячы працы. Калі прадстаўнік Фундушу Працы паведаміў бэзработных, што фундуш ня мае пакуль што магчымасьці затруднiць большую колькасьць безработных, частка сабраўшыхся ськіравалася ў Магістрат, дзе старалася дастацца ў панадвор'е. Паліцыя не дапусьціла да гэтага. Тады частка безработных пайшла на Акадэміцкі пляц, дзе ідуць каналізацыйныя работы. Шэсьць конных паліцыянтаў стараліся заспакоіць сабраўшыхся безработных, аднак у гэты час на паліцыянтаў кінута некалькі камняў і бруковых косткаў. Аддзел паліцыі адыйшоў на Акадэміцкую вул., а адзін з паліцыянтаў, дзеля ўласнай абароны ўжыў аружжа (равольвэр) страляючы 5 разоў у паветра, а пасьля адзін раз у напрамку атакуючых яго. — У выніку ранена 2 асобы з пасярод дэманстрантаў. Адзін з іх 23-х гадавы бэзработны Уладыслаў Казак памёр, а другі з лягчэйшай ранай знаходзіцца ў гошпіталі. Ўлады вядуць сьледства з мэтай высьвятліць прабег і выявіць віноўнікаў падзеяў“.

Львоўскі тыднёвік „Трыбуна Роботніча“ піша.

„У поўным спакоі пайшлі бэзработныя (ад Бюра Пасяр. Працы. Рэд.) у напрамку дому Фундуша працы, ні кім не разганяныя, і чакалі на адказ.

(Працяг на адвароце)

# „МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ“.

(Гл. № 6 „Нашай Волі“, 12.IV.36 г,)

Ня будзем затрымлівацца ўжо на поэзіі і бэлетрыстыцы „Маладой Беларусі“: аўтары іх блізу тыя-ж самыя, што і ў „Калосьсі“. Мімаходам толькі адзначым „твор“ М. Дальняга, які нявартны нават паперы, на якой надрукаваны. Абмінаем пакуль і артыкул Ст. Станкевіча „аб шляхох новай беларускай поэзіі“, як няскончаны. Пераходзім адразу да аддзелу публіцыстычнага і навуковага.

На чале першага стаіць артыкул М. Шкялёнка, які слушна кажа, што „наша інтэлігэнцыя мае шмат хваравых праяваў унутранага характару“. Нетолеранцыя да інакш мысьлячых. Непашана да чужой дзейнасьці, „генеральская хвароба“ некаторых павадыроў, іх грызьня паміж сабою, грамадзкая недасьпеласьць, заняпад пачуцьця абавязку і адказнасьці, ахвота да ўлады нават да дыктатуры, але неахвота да працы і г. д. Усё гэта ведамыя усім грахі нашай інтэлігэнцыі...

Шкода толькі, што часапіс маладых сам далёка ня вольны ад некаторых з гэтых грахоў...

Аўтар паўтарае, толькі ў больш канкрэтнай форме, усе тыя закіды „старэйшаму грамадзянству“, якія ў агульнай форме былі кінены ў артыкуле ад Рэдакцыі. Абодвы артыкулы, як быццам пісаны адным пяром.

Агульны сумны дыягноз М. Шкелёнка аднак пакідае яму веру ў тое, што хвароба нашага грамадзянства ня ёсьць цалкам нявылечальная. Ён бачыць нават добрыя адзнакі аздараўленьня: зразуменьне памылак, пакаяньне ў грахох, узрост разумнай сьведамасьці, маральнай волі і адказнасьці, Але слушна аўтар кажа, што і гэтага яшчэ мала: трэба яшчэ стварыць *„здаравыя ідэолёгічныя асновы дзеля абнаўленьня.“*.

Толькі ў гэтым галоўным пункце аўтар арыкулу бяз нажа рэжа і сам сябе, як галоўнага публіцыста часапісу, і сваіх таварышоў па рэдакцыі. Бо каму-ж не ясна, што для здаровых ідэолёгічных асноў трэба мець тую ці іншую ідэю.. А нашы „маладыя“, адкінуўшы ўсе старыя ідэі, не паставілі *ні перад сабой ні перад грамадзянствам ніякай новай ідэі,* якая засьвяціла-б зоркай у будучыню. Яны абмежаваліся толькі *жыцьцёвым опортунізмам сяньняшняга дня.*

Урэшце — на самым канцы — блізу на задворках нумару, зьмешчаны, запраўды-ж найбольш „пахнючы“, артыкул В. Грышкевіча. Артыкул гэты, як ведама, выклікаў згоднае, агульнае абурэньне, як на нашым віленскім грунце. так сама і ў шырокай і глыбокай правінцыі. Нават пабежны разгляд артыкулу сьцьвярджае, што гэтае абурэньне зусім слушнае.

„Ці існуе крызыс беларускага руху?“ Як пісалася ў газэтах, такі даклад, быў сьпярша прачытаны ў... польскім „Клюбе Влучэнгув“.

„У . . . сучасны момэнт д л я п о л ь с к і х у р а д а в ы х д з е й н і к а ў (падкр. рэд) беларускае пытаньне амаль не існуе, яно перачыркнутае, бо беларускі рух, цьвердзяць яны, мала актыўны“. Так цьвердзяць „польскія урадавыя і не урадавыя дзейнікі“, паўтарае аўтар. Але беларускі публіцуст ідзе шмат далей, далей нават, як гэтыя „польскія дзейнікі. Бо-ж ён цьвердзіць, што ў нас *нічога няма — нічога — нічагусенькі...* „Няма у нас моцных палітычных, эканамічных і культурных арганізацыяў (нават?...), няма апрацаванай палітычнай праграмы ідэологіі (што гэта за „праграма-ідэологія“?), ці ідэолёгіяў, няма павадыроў... Слушна. Усяго гэтага няма і ня будзе для тых, хто на першым мейсцы ставіць п р ы н ц ы п о в у ю б я з д з е й н а с ь ц ь, адкідае усе ідэі, якімі жыла грамадзянства, як „пэражытыя і неактуальныя“, і перачырківае увесь беларускі рух.

Але гэты публіцысты далей вінаваціць нашу інтэлігэнцыю, што яна часткова ўцягнулася ў агульную куламесу грызьні, а часткова засела на выгадных пасадах і вольных прафэсіях і забылася пра свае папярэдніія ідэі — лятуценьні аб Беларусі“... Але што гэта, пракурорская прамова, ці пакаяньне грэшніка?? Гэтыя ж словы моцна бьюць, як самага публіцыста, та і яго таварышоў па рэдакцыі.

Гэта-ж якраз усе яны на чале з В. Грышкевічам — выразна „адкінулі ідэі — лятуценьні аб Беларусі“, засеўшы, як сцьвердзіла нядаўна „Беларуская Крыніца“, на выгадных (дый яшчэ урадавых) пасадах, або на становішчах вольнай прафэсіі ...

Вось гэтых грозных пракурораў і трэба лічыць паводле ўласных слоў В. Грышкевіча — „больш шчасьлівымі, але меньш вернымі нацыянальнаму сумленьню“, — опортуністамі ў горшым сэньсе гэтага слова.

Мы бачылі Грышкевіча ў ролі пракурора. Паслухаем цяпер яго ў ролі адвоката.

Тое, што у нас „няма нічога“, ніякага арганізаванага жыцьця, ні ідэолёгіяў — паводле В. Грышкевіча — дробязь Бо гэта толькі „праявы“, але не сутнасьць. За тое ёсьць нешта важнейшае, „сутнасьць без праяваў“, гэта ёсьць „беларускі рух“... „Беларускі рух без павадыроў і без праграмы“, як піша В Грышкевіч. Але, як можна думаць, з яго слоў: гэта якраз і добра, гэга якраз і патрэбна... Пытаньне толькі—каму гэта патрэбна.

Паглядзімо нарэшце і на тое, як В. Грышкевіч - гісторык тлумачыць перажытую беларускім народам гістарычную „операцыю“ зьліквідаваньня усіх гэтых „непатрэбных“, арганізаваных праяваў „беларускага руху“. Мова зразумела аб лёсе Грамады.

Увесь гэты вялізарны ўздым беларускага народнага руху „беларускі гісторык“ прадстаўляе, як справу нейкіх „дырыжораў“, якія патрапілі прыцягнуць народныя масы да ролі „жыранта“ гэтай „чужой для народу справы“.

Паводле Грышкевіча, беларускія народныя масы зусім не бароліcь у гэтым руху за сваю справу, а былі проста „ашуканы павадырамі“, якія пасьля краху патрапілі „спрытна ўнесьці ногі“, кінуўшы ў ахвяру найлепшы беларускі народны актыў.

Так „піша гісторыю“ В. Грышкевіч.

Старая, слаўная, выпрабаваная добра, і добра ведамая нам усім „тэорыя агітатараў“, якія „падбураюць спакойныя народныя масы“ на неспакойныя учынкі.

Тое-ж самое даводзілі на судзе Грамады і ў прэсе даводзяць розн. „польскія урадавыя і не-урадавыя дзейнікі“, якіх першым заданьнем было аддзяліць гэтыя „спакойныя народныя масы“ ад неспакойных павадыроў“, працаваўшых „дзеля чужой справы.“... І вось цяпер „малады беларускі гісторык“ на старонках „часапісу маладых“, дый яшчэ з такім традыцыйна-шляхотным назовам—блізу дадаслоўна паўтарае прэсавыя „довады“ і судовыя паказаньні усіх гэтых компетэнтных „знаўцаў беларускай справы“, выступаўшых у часе працэсу Грамады... Забывае ён пры гэтым ізноў-жа „дробязь“, што найбольш пацярпелі ў гэтай справе якраз павадыры, „дырыжоры“, „вярхі“, бо якраз яны, а не хто іншы складалі той „найлепшы актыў“, які „мусіў заплаціць за ўсё гэта сотнямі гадоў турмы, ссылкай, здароўем, і маладым жыцьцём.

Можна слушна абурацца на панаваньне у нашым жыцьці усялякіх „орыентацыяў“. Але ёсьць орыентацыі розныя. Панаваўшая т а д ы ў часе Грамады „орыентацыя“, якую так страшэнна бэсьціць ц я п е р, добра „з'орыентаваўшыся“ у новых „абставінах сяняшняга дня“, В. Грышкевіч, была *„орыентацыяй на сябе“*.

Нэгатыўны бок праграмы „часапісу маладых“ распрацаваны у ім як бачым даволі багата. Усё тое, што адкінулі рэдактары яго у галіне „грамадзкай культуры“, этыкі, ідэйнасьці, усе гэта высветлена імі ясна.

Затое позытыўны бок „плятформы“ новага „органу думкі і працы“ нашых маладых выглядае ужо значна слабэй.

---

Чым адрожніваецца часапіс маладых ад „старога Калосься“?

Мала чым: нават супрацоўнікі блізу усе тыя самыя, апрача хіба аднаго—самага няўдалага — В. Грышкевіча. Дык ці варта было за гэтага аднаго няўдалага дзяліцца?...

Справядлівасьць кажа прызнаць, што „Калосьсе“ робіць прынамсь з боку маральна-грамадзкага, нераўнуючы лепшае ўражаньне. *В.-ч.*

# КРЫТЫК.

... „дык здаецца гэта ужо
ясна для кожнай вёскі“ —
Не-стары.

Як толькі падняўся наш крытык з калыскі,
хадзіці на задніх ён лапках пачаў,
няблага вылізваў панскія міскі
і косьці індычак з стала абгрызаў.

Падросшы ён к людзям пачаў прыглядацца,
(ён сэрцам і носам круціў, як хвастом),
навучыўся ён хутка кусаць, агрызацца,
хадзіці з маленькім, пад кляпай, значком.

Няраз яго гладзіла псярня па твары
таму, што кусацца умеў найніжэй,—
блішчэў яго весяла нос самаварам,
і поўная міска ляжала касьцей.

Памрэ, — пахаваюць. Засыпаць падможам:
усе вершаплёты прыйдзём грамадой,
і оду, як конскую скабу, паложым,
каб меў ён што грызьці і там пад зямлёй,

МАКСІМ ТАНК.

Вільня.
Красавік 1936 году,

# Попярак загонаў.

(Гл. „Н. В.“ № 6 (7).

4.

Там, дзе шэрай зрэбнай пасьцілкай спусьцілася поля к рацэ, каля грэблі, чуваць быў стук тапароў і галасы.

Сымон затрымаў каня, счысьціў пугав'ём з незацёртага яшчэ нарогу цяжкую вясеньнюю гразь.

Яшчэ пяць баразён — думаў, глядзючы на свой вузкі загон, і мімаволі ўзрок затрымаўся на шырокім валочным шнуры Якіма.

Конь грыз, на мяжы сухую прошлагоднюю атаву. Недалёка, з шумам, на ральлю спусьцілася стада сяўцоў. Сымон глянуў пад сонца.

Хтось, ад ральлі, хутка бег праз загоны у бок вёскі.

„Гэта пэўна Рыгор, але чаго... — думаў Сымон ідучы; яму наперадзе з другіх шнуроў, таксама кінуўшы працу, ішлі сяляне, цяжка і глыбака западаючы ў ральлю.

„Рыго-о-ор“!...

Каменям пакацілася па межах рэха. Рыгор затрымаўся.

— Заставы спушчаюць! Дайце знаць у вёсцы... заставы! чуеце?!

І нечакаючы на адказ, падбягаючы, направіўся да вёскі.

Ізноў разселіся па загонах людзі, як чорныя жывыя зярняты папаўзлі з канца ў канец доўгімі баразнамі.

— Но! кратай!. заставы спушчаюць. Увесь альшэўнік затопяць; палову шнуроў.. — думаў Сымон, налягаючы на плуг. — Яшчэ тры баразны. А шнуры тыя спрадвеку былі нашы... Праўда ад поля: трава — сьвінарка; але у кутку—асака у пояс...

Сонца высака паднялося затрымалася над пахілянымі плячмі Сымона.

— Ад камня трэба пасеяць аўса, ніжэй: бульбу... Ды ізноў варочаўся думкамі на вузкія шнуры сенажаці. Бачыў, як падымалася вада вышэй і вышэй, затаплівала алешнік, дапаўзала да аселіц, да хат.

— — — — — —

Вецер з вёскі прынёс на поля ахапак галасоў. На агародах зьбіраўся тлум, бурліў на мейсцы. Пасьля, быццам адарваўшыся ад вясковых хат, пайшоў проста праз поля, праз межы, попярак загонаў да ракі.

Ішлі ціха, памалу быццам набіралі сілы. Мінуўшы наддаткі, за пераваламі тлум пачаў згушчацца. З поля — кідалі работу — прыбывалі новыя сілы, зьліваліся.

— Толькі дратуім, ідучы так цэлай хмарай попярак—адазваўся Сымон.

— Яшчэ ўзыйдзе...

Адно і другое крыло шуму пачало заставацца, ападаць. Мінулі памежак. Цясьней сплаціліся, ішлі клінам. Трэснуў дзесь на мяжы кол, хтось вырваў з балота, уточаную да гары карэньням вывараць бярэзіны, старую вітку.

— Заставы спусьцілі...

— Атапіла, кажыш, увесь выган ...

— Адонкі на Луцэ сарвэла, паплылі . . .

Глуха, застагнала, загаварыла бярвеньня грэблі пад нагамі тлуму.

5.

Дзе густа сплялася з альшэўнікам лаза, дзе сіратліва зеленеў вясной і паміраў восеньню балотны бярэзьнік, дзе чарнелі старыя згніўшыя адонкі—там шырака разьлілася Бярозаўка. Вада прыбывала. Толькі ад грэблі данасіліся галасы, гасьлі, ды безперастанку звонка стучалі, як дзятлы, тапары.

Пасьля, з глухім трэскам, з шумам дрогнула Бярозаўка. Перш памалу, цасьля хутчэй пачала яна адступаць пакідаючы мокраю ціну, трысьцё, чорныя лугавыя ракавіны, прынесяныя з балота...

Змоўк шум і стук. Сонца, як пад рэзаны ў цьвеце сланэчнік, звалілася ў Бярозаўку, толькі пад зару вырас разкалыхачы вясеньнім вечарам лес камароў.

Ад грэблі чуліся густыя крокі і шум галасоў. Попярак загонаў, па скончанай працы, ішоў народ...

А над ападаючай Бярозаўкай, над чорным полям, над вёскай, спазьніўшыся сявец шырака разсеяў раньняй сяўбай зоры—зярняты ячменю.

*Максім Танк.*

Вільня, Красавік 1936 г.

## Падзеі ў Львове.

(Пачатак гл. на ст. 3).

Пасьля разгону бэзработныя пайшлі малымі групамі на Акадэміцкі пляц зусім спакойна і рознымі вуліцамі і сабраліся каля мейсца, дзе перарабляецца канал, і пачалі ўзнасіць воклікі з дамаганьнем працы. Безработныя ішлі зусім спакойна згорнутай групай каля 300 асобаў.

Пасьля выстралаў, абураныя дэманстранты пачалі кідаць каменьні, каторымі выбіта некалькі шыбаў у бліжэйшых крамах".

16 красавіка адбыліся хаўтуры забітага Уладыслава Казака. Падчас хаўтур адбыліся новыя крывавыя падзеі. Забіта 10 асобаў, ранена каля 60. З ліку раненых да гэтага дня некалькі асобаў памёрла, так што ахвяраў гэтых падзеяў ужо маецца значна больш 14 асобаў.

Падаемо прабег і гэтых падзеяў паводле польскае прэсы.

Паводле ўрадавага камунікату ПАТ-а разрухі былі выкліканы „элемэнтамі скамунізананымі і „мэнтамі" вуліцы". Хаўтурная працэсія, гавора ПАТ, замест Лычакоўскіх могілак у апошнюю хвіліну, пад уплывам агітацыі выўратовых элемэнтаў, скіравалася дэманстрацыйна праз цэлы горад на Яноўскія могілкі. Падчас паходу значная частка яго ўдзельнікаў дапушчалася розных эксцэсаў, біла шыбы і рабавала крамы, а два разы атакавала аддзелы паліцыі камнямі і равальвэрнымі выстраламі. У гэтакай сытуацыі аддзелы паліцыі змушаны былі ужыць аружжа. У выніку — 3 асобы былі забітыя і некалькі дзясяткаў ранена. Ранена таксама і некалькі паліцыянтаў.

Агэнцыя „Іскра" падае наступнае.

„Сяньня раніцай (г. зн. у дзень хаўтур) камітэт бэзработных інтэрвэньняваў у гарадзкім старастве, стараючыся аб зьмене напрамку працэсіі, а іменна так, каб працэсія прайшла праз увесь горад на Яноўскія могілкі. Староства не магло прыняць гэтае прапазыкі, выстаўленай у апошнюю хвіліну і.... і пастанавіла утрымаць у сіле сваю папярэднюю ўмову з хаўтурным камітэтам.

Выходзячы з гэтага камунікату „Работнік" (18-IV) робіць вывад, што староства ўжо раніцай знала, што работнікі і безработныя хочуць пахаваць на Яноўскіх могілках і дзеля гэтага „не патрэбна было выўротовых элемэнтаў, каб накінуць гэтую пастанову".

Карэспандэнт „Кур'ера Параннага" падае, што хаваць забітага на Лычакоўскіх могілках „спрацівілася група неарганізаваных работнікаў". Карэспандэнт жэ „Газэты Польскай" наагул нават не ўспамінае таго, што хаўтурная працэсія мела ісьці на Лычакоўскія могілкі, а просто пайшла на Яноўскія могілкі.

Прабег разрух агэнцыя „Іскра" падае гэтак.

„ На рагу Жуліньскай вул. слабы аддзел паліцыі загарадзіў дарогу, кіруючы таўпу (хаўтурную працэсію — Рэд.) назад. З таўпы кінута ў паліцыю каменьня і рэвальвэрныя выстралы, каторыя ранілі некалькі радавых дзяржаўнае паліцыі. Паліцыя змушаная была ужыць халоднае аружжа, але не магла утрымаць націску таўпы, якая бяз перашкод пайшла ў напрамку Бернардынскага і Акадэміцкага пляцу, атакуючы па дарозе каменьнямі і равальвэрнымі выстраламі паліцыю. Адначасна да таўпы пачалі далучацца „мэнты вуліцы" дзеля грабежу хрысьціянскіх і жыдоўскіх крамаў. — Паліцыя пасьля паўторнага папярэджаньня, засыпаная выстраламі, змушаная была ужыць агнястрэльнага аружжа.

Частка дэманстрантаў вяртаючыся з хаўтураў, згуртавалася каля гарадзкога тэатру, дзе затрымала два трамваі і перавярнуўшы іх, хацела выкарыстаць, як барыкаду".

Усе гэтыя падзеі моцна узварушылі усё грамадзянства.

У Варшаву выехаў б. прам'ер праф. Бартэль. Як падае І. К. Ц., праф. Бартэль, на пастаўленае корэспандэнтам пытаньне ў справе Львоўскіх падзеяў сказаў, „Але што Вы, паны, пішаце ў газэтах аб Львове. Гэта былі далёка паважнейшыя рэчы. Калі да людзей страляюць, а тыя не ўцякаюць, але ідуць не баючыся сьмерці, то гэта ўжо не замешкі. Гэта пахне рэвалюцыяй".

## З усяго сьвету.

— Латвійскі прэзыдэнт Квэсіс, срок прэзыдэнтуры якога скончыўся, здаў свае паўнамоцтвы і ўладу прам'ер-міністру Ульманісу, які гэтакім чынам стаўся прэзыдэнтам.

— У Маскве адбыўся X кангрэс Камуністычнага саюзу моладзі (комсамолу).

— З Дубліна (Ірляндыя) паведамляюць, што ў першы дзень вялікодных сьвят дайшло да паважных разрухаў на палітычным грунце. Паміж рэспубліканцамі і іх праціўнікамі дайшло да схваткі, падчас якой ранена больш як 100 асобаў.

— Як паведамляе японская газэта „Асагі", японскі вайсковы міністар Тэраучы сказаў, што будзе дамагацца ад ураду выкананьня наступных дамаганьняў арміі: 1) рэформы адміністрацыі і 2) умацаваньня абароны краю. Міністар абяцаўся таксама высьвятліць перад парлямэнтам прычыны вайсковага бунту 26 лютага.

— 15 і 16 красавіка ў Лёндане адбылася нарада прадстаўнікоў гэнеральных штабаў Англіі, Францыі і Бэльгіі. Нарада склікана ў зьвязку з увядзеньнем нямецкага войска ў Прырэйнскую вобласьць. Нарада адбылася ў вялікай тайне.

— Як падае амэрыканская прэса, група безработных, у ліку каля 1000 чалавек, зьявілася ў парлямант, дзе адбывалася апошняе перад сьвятамі паседжаньне. Безработныя заявілі, што ня маюць за што пражыць сьвята і дзеля гэтага пазастануцца у памешканьні парлямэнту. Калі хацелі вывясьці дэманстрантаў, апошнія пачалі пеяць рэвалюцыйныя песьні і паднялі шум, дзеля чаго было спынена нават паседжаньне парлямэнту.

— З кітайскіх крыніц даносяць, што кітайская Чырвоная армія пасоўваецца наперад. 6 вокругаў правінцыі Шанеі аканчальна занятыя чырвонымі, а 14 вокругоў — занята часьцёва. Барацьба паміж чарвонай арміяй і ўрадавым войскам прадаўжаецца.

— Ў Оссеку (Югаславія) дайшло да сутычкі паміж групай селян і жандармамі, пакліканымі на помач паліцыянтам. У выніку — тры селяніна забіты.

— Як падае П. А. Т. у Югаславіі ў Керестінатсе і Ракітне, каля Загрэба, здарыліся крывавыя падзеі, падчас якіх забіта 11 асобаў. Падпрэфэкт акругі Самббор атрымаў адстаўку.

— З Коўна даносяць, што літоўская жандармэрыя арыштавала шмат асобаў, якія, стараліся выклікаць проціўрадавыя разрухі ў вёсках. Улады выдалі шэраг вострых распараджэньняў у справе змаганьня з проціўрадавай прапагандай.

— Ува Францыі рада фэдэрацыі работнікаў, працуючых пад зямлёй ухваліла абвясьціць з 1 траўня забастоўку ўва ўсіх капальнях вугля, калі уласьнікі капальняў не задаволяць дамаганьняў гарнякоў.

— З Токіо даносяць, што гэн. Дойгара прачытаў прадстаўнікам войска і парляманту даклад на тэму: „Памылкі азыяцкай палітыкі Японіі" Галоўнай памылкай японскай палітыкі лічыць ён разгляд Кітаю, як аднэй непадзельнай дзяржавы. Адзіным выхадам, як для Японіі, так і для Кітаю, па думцы гэн. Дойгара, зьяўляецца падзел Кітаю на шэраг аўтаномных дзяржаваў.

— У Бэльгіі абвешчаны дэкрэт аб роспуску парляманту і аб вызначэньні на 24 траўня новых выбараў.

## З Польшчы.

— Дэкрэтам Прэзыдэнта П. Р. звольнены ў адстаўку, згодна пастановы Рады Міністраў кракаўскі Ваявода К. Сьвітальскі. Адстаўка знаходзіцца ў сувязі з кракаўскімі падзеямі.

— Старшыня Рады Міністраў звольніў з пасады старшыні камісіі ашчаднасьцва - аддлужэнёвай І. Матушэўскага, быўш. Міністра скарбу.

— Паводле дадзеных Бюраў пасярэдніцтва працы ў Польшчы на 15 красавіка лічылася 458064 безработных.

— Пастановаю судовых уладаў ў Вільні завешаны двутыднёвік „Попросту". Прычынаю завешаньня, як падае „Кур. Варшаўскі", быў артыкул аб палітыцы п. мін. Бэка.

— 20 красавіка ў Пазнані адбылася дэманстрацыя безработных. Безработныя ў ліку каля 1500 сабраліся каля дому фундушу працы, дамагаючыся працы. Адтуль дэманстрацыя прайшла пад ваяводства, дзе ваявода прыняў дэлегацыю безработных і абяцаў зрабіць усё, каб затрудніць найбольшы лік безработных. Пасьля безработныя прайшлі да магістрату, дзе таксама абяцаліся ім зрабіць усё, каб зьліквідаваць безрабоцьце. Пасьля гэтага дэманстранты спакойна разыйшліся.

— 20 красавіка у Львове адбылася 24-х гадзінная дэманстрацыйная забастоўка. Забастоўка была агульная і прайшла спакойна і ў паднятым настроі. Яна паказала, што рабочыя масы падпарадкаваны сваім црафэсыянальным арганізацыям.

— Як падае „Іскра' ў апошнія часы ў лягэр Бярэза-Картуска дастаўлена 59 асобаў з Львова, 27 з Келецкага ваяв., 41 з Вільні і Віленскага ваяв. па некалькі асобаў з ваяводстваў Варшаўскага, Лодзінскага, Наваградскага і Горадзенскага.

— Дэкрэтам Прэзыдента П. Р. створаны „Фонд Нацыянальнай Абароны". Абвешчаны дэкрэт аб прадажы шэрагу нярухомасьцяў, а ў тым ліку і Макатоўскага поля. Атрыманыя сумы будуць залічаны на ўспомнены фонд.

Дэкрэтам Прэзыдэнта П. Р. ад 27 красавіка, устрыманы свабодны абарот загранічнай валютай і золатам. Выданая урадавая дэклярацыя, тлумачыць гэтае мерапрыемства патрэбаю барацьбы з спэкуляцыяй золатам і загранічнай валютай, якая затрудняла працу Ураду ў галіне барацьбы з безрабоцьцем. У асобным выканаўчым распараджэньні пададзены парадак атрыманьня валюты на гаспадарчыя мэты.

Фундуш Працы атрымаў дадатковы крэдыт у 5 мільёнаў злотых з сум, вызначаных Банкам Польскім на барацьбу з безрабоцьцем.

— У Хржанове (каля Кракова) 29 красавіка адбыліся разрухі падчас дэманстрацыі работнікаў, працуючых на грамадзкіх работах. У сутычцы з паліцыяй 1 дэманстрант забіты, а 9 раненых; сярод паліцыянтаў ёсьць 14 раненых.

## Карэспандэнцыі.

**ВЯЛІКАЕ СЯЛО.** Маладэч. павету. У нас, як і па ўсіх вёсках Беларусі, разам з вясной заглядае голад, нэндза і недастаткі у кожную хату. Яшчэ ў 1921 годзе быў заложаны ў нас гурток ТБШ. Хоць гурток зачынены, але моладзь і цяпер вечарамі зьбіраецца чытаць кніжкі і газэты і пяяць беларускія песьні:

*Вялікасельская моладзь.*

**М-к ПНЕВА**, каля Ломжы. Работнікі млечарні у м-ку Пнево засылаем рэдакцыі і супрацоўнікам „Нашай Волі" шчырае работніцкае прывітаньне і просімо прысылаць сваю газэту. Перадплату высылаем.

*З павашанем работнікі.*

*АД РЭДАКЦЫІ.* Дзякуем за прывітаньне. Наша сіла, маральнае і матэрыяльнае падтрыманьне — гэта працоўны народ, якому мы хочам нясьці прамень сьвятла і праўды на старонках сваей газэты.

**В. ГІРДАЎКА**, Наваградзкі пав. Доўга я чакаў свае газэты, і нарэшце з поўнай радасьцяй у грудзёх прыняў, як найлепшага госьця. Заклікаю моладзь іншых вёсак да працы, і маю надзею, што мой заклік будзе прыняты актыўны чынам, гарачым удзелам у нашым часопісу. Перадаю Вам, дарагія працоўнікі „Нашае Волі" гарачае прывітаньне ад бацькі. *Уладзік С.*

**В. ЗАРУДАЎЕ**, Ваўкавыскага павету. Наша моладзь стаіць на грунце сьвядомасьці; чытаць газэту лічыць важнаю справаю. А свае родныя газэты нас цікавяць яшчэ больш: адгукнуўся запал у сэрцы, калі угледзілі часапіс „Наша Воля" у сваей роднай мове. Горача вітаем і жадаем вялікага пасьпеху.

*Шчырыя беларусы.*

**В. КЕЙЗІКІ**, Пастаўскага павету. Мы некалькі работнікаў пачалі працаваць у цагэльні графа Пшэздэцкага ад сажня па 2 зл., — парэзац і пашчапаць, плата зусім малая. Графскаму парабку Дзевялтоўскаму не спадабалася, што мы гаварылі да яго па беларуску; ён так на нас абурыўся, пачаў дзівіцца, што у польскіх вучыліся школах, а па польску ня ўмеюць, а гавораць хамскім языком. Калі мы яму адказалі, што для нас беларускі язык найлепшы і найпрыгажэйшы, то ён так узлаваўся, што аж звольніў нас з работы і пачаў муштраваць, не прымаць ад нас работы.

Во, браты беларусы, якія у нас панскія слугі! *Работнік.*

## ВЕРШАВАЯ СКРЫНКА.

Х. КЕЙДЗЮК: Факты ў хронолёгічным парадку яшчэ не паэзыя. Глядзіце адказы лісту і др. у наст. нумары.

А. ДЗІК: Замест прывітальных вершаў для „Наш. В." прысылайце карэспандэнцыі, распашырайце газэту. Вершы слабыя.

П. БЕГЛЕЦ: Меньш гутарце з нябеснымі сіламі. З людзьмі, якія бачылі і Лукішкі і др. мейсцы, яны ня любяць гаварыць. Агулам вершы слабыя.

## ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

Szanowny Panie Redaktorze!

Zwracamy się z uprzejmą prośbą o zamieszczenie na prawach rewanżu załączonej wzmianki w piśmie WPanów.

„Spowodu zamiany pisma na dwutygodnik i ogólnej reorganizacji, najbiższy numer „Lewara" ukaże się w dniu 15 maja pod redakcję Komitetu: St. R. Dobrowolski, B. Dudziński Em. Schurer, Fr. Siedlecki, Elżb. Szemplińska i Jan Wyka.

Adres Redakcji i Administracji: Warszawa, Chmielna 59 m. 2, tel. 630-92".

Z poważaniem

*Redakcja „Lewara".*



## „Першыя зерняткі".

Новая беларуская кніжка-лемантар — „Першыя зерняткі", С. Паўловіча — нядаўна вышла з друку. Першае ўражаньне нават ад павярхоўнага разгляду кніжкі — вельмі дадатняе: чыстае і акуратнае выданьне, строгая пасьлядоўнасьць у выбары і ўкладзе матар'ялу, добрыя малюнкі і што па нашаму самае важнае для такой кніжкі — гэта чытанка для дзяцей пасьля лемантарнай часткі, насычаная глыбокім беларускім зьместам. Кніжка мае побач з гражданкай для азнаямленьня і лацінку. Бліжэйшы разгляд падамо ў наступным нумары „Нашай Волі".

## Паштовая скрынка.

В. Т. Грошы атрымалі і газэту высылаем рэгулярна, запытайцеся на пошце.

Селівончыку, Пралату і Мажэйку, прозьбу Вашу перадалі у Школьны Секрэтарьят.

Сушку. Прозьбу Вашу перадалі у Т. Б. Ш.

Валынцу. Газэту высылаем, чакаем, на падпіску.

Сьвертаку Я. Высылаем Вам другі раз усе нумары, паведамляючы, што дагэтуль высылалі рэгулярна. Пастарайцеся гэтую справу выясьніць на пошце ці ў гміне.

Якімовічу Я. Як папярэдняму.

Гр. з Вселюба. Не маглі мы адчытаць не толькі Вашых твораў, але нават псэўдоніма Пішэце чарнілам, выразна і падайце дакладны адрас.

Халопіку П., Папасені, Крывіцкаму, Абрамовічу, Якуцю, Пшчале, Адамчыку і Есісу. Прозьбу спаўняем.

Шымку Адрас Вольнамысьліцеля Польскага Warszawa, Królewska 16.

Адказны Рэдактар і Выдавец ВІНЦЭСЬ СКЛУБОЎСКІ. Друкарня І. Баеўскага. Вільня, Татарская вул. 13.